не панадна. Адылі, утуліўшы ніжэй галаву, я ўжо рушыў разам з усімі вольнымі ўцекачамі на ўсход. „Галавой ты налажы, страляй ні страляй, мяне ўжо туды ня вернеш, я цяпер вольны казак, і йду на ўсход сонца, у шырокі сьвет.”

А яно й запраўды пачало ўжо днець болей і неўзабаве летні заранак пачаў усё ярчэй румяніць далёкі ўсход. А калі сонца паднялося ўжо высака і ўся прырода як бы засьпявала гімн летняй красе, здарылася нечаканае. У міжчасе, калі я адпачываў на абочыне лесу, сярод іншых людзей, што павыбіваўшыся з сілы, давалі супакой сваім стомленым нагам, той этап арыштантаў прагналі ўжо па дарозе далёка ўперад і цяпер яму ўжо прыйшла чарга адпачываць на ўзбочыне лесу каля дарогі. І якраз на самым краю лесу, бліжэй да дарогі сядзеў чалавек у летнім белым гарнітуры. Гэткім яго забралі з працы з міністэрства земляробства ў Менску на другі дзень вайны, прывялі ў маю камэру й гэткім пагналі ў этап. Цяпер ён глядзеў на дарогу, зайздроснымі вачыма арыштанта мераючы кажную постаць вольнага ўцекача. І вось дзіва, мне здалося, што ён якраз пільна цікаваў вачыма мяне, відаць прымяркоўваючы, той гэта сакамэрнік, ці ня той. Я адвёў пагляд у бок. „Каб жа, барані Божа, ня выдаў канваерам, што бачыў у натоўпе арыштанта ўцекача. Тут бы мне быў і каюк! Іншага не магло й быць! Калі стралялі за крок улева ці ўправа, дык за ўцёкі й пагатоў толькі сьмерць пакараньнем і магла быць.” Яшчэ ніжэй утуліў галаву. Колькі часінаў пачуваў сябе, як у труну пакладзены. А затым, аддаўшы бацьку даччыну валізку, якую я быў узяўся за кавалак хлеба несьці на тэй дарозе, я шуганіў убок ад дарогі й колькі часу ішоў рознымі сьцежкамі, пакуль папаўдні ня выбіўся на вялікую дарогу. Таксама няспынна сунуліся на ўсход такія ж уцекачы з Менску. А на захадзе яшчэ доўга ня меньшыўся высокі чорны слуп дыму, што ўздымаўся над полымям, у якім зьнікала беларуская сталіца. Дзе-каторыя ўцекачы называлі як ужо пагарэлую й маю вуліцу. Глыбокім болем у душы люстраваўся кожны спомін пра родную хату й пакінутых у невядомасьці старых бацькоў у Менску. Няўжо ж лёс судзіў ім ня толькі страціць іх гонар – адзінага засталага сына, але й самім спапяліць свае косьці на вуглёх згарэлае хаты.

Колькі разоў зноў збочваў на прыдарожныя сьцежкі й вяртаўся на гасьцінец. За хлеб зноў наймаўся памагатым несьці пакункі. Пад вечар апынуўся ў Сьмілавічах. Пачуў, што ў будынку сельгастэхнікуму даюць хлеб уцекачам. Пайшоў шукаць тога пажыўнага месца.

П. Добра, што нарэшце Вам удалося разьмінуцца з тым злашчасным этапам зьняволеных.

А. Вось якраз гэтай бяды й не абмінуў. Блукаючы па драўляных ходніках незнаёмага мне мястэчка, зьнянацку натрапіў на могілкі. І вось ужо за якіх поўквартала да могілак, к майму раптоўнаму зьдзіўленьню я пад дрэвамі пабачыў людзей! На магілах сядзелі тыя ж арыштанты, ад якіх я ўжо бадай што ні дзень уцякаю, на зламаньне маёй галавы. Што было рабіць! Я вяртаю назад і йду павольным крокам да першага павароту. А за рогам, я ўжо ня мог стрымацца. Халодны пот пабег па сьпіне. Я кінуўся на ўцёкі. За мною, як на зло, стукалі прыўзьнятыя маімі крокамі драўляныя насьцілы нерамантаваных ходнікаў. Крычэлі ад сполаху спацыруючыя па вуліцы куры. Колькі разоў заварочваў управа ці ўлева наўздагад, бо мястэчка ня ведаў. Гэтак абегаў ці мала вуліцаў, пасьля ўжо ішоў павольна. Зноў высьняў, дзе той сельгастэхнікум. А калі нарэшце дайшоў да яго, дык даведаўся, што хлеб даўно ўжо раздалі й больш няма.

Дзіўным жа ў гэтых пошуках сталася тое, што апынуўся якраз каля таго месца, адкуль колькі часу таму з усіх сілаў уцякаў. Па другі бок шуканага будынку якраз і зьмяшчаліся тыя самыя могілкі, што надоечы мяне гэтак спужалі. Першае ўсьведамленьне гэтага балюча ўкалола і ўсё нутро аж захаладзела. Але зараз за гэтым вочы прыемна адзначылі, што на гэты раз могілкі тыя былі самотнымі. У перадвечаровай летняй цішыні пад шатамі разгалістых дрэваў адно шэрыя цені ўкрывалі, нібыта дыванам, зялёныя магілкі. Палегчала на душы. Па часе, спакайней пачало калаціцца ў грудзёх. Набліжэньне цэмнаты змушала думаць пра начное сховішча.

П. Ці гэтыя Вашы прыгоды знайшлі сваё апісаньне дзе-небудзь у Вашых творах? Яны маюць гэткі глыбокі сэнс і агульна-чалавечае значаньне, што маглі б узбагаціць скарбніцу не адно толькі беларускае эміграцкае літаратуры.

А. Так, гэтыя здарэньні, як і шмат што іншае з майго жыцьця, зьявіліся тым дазнаньнем, якое ўператвораным выглядзе знайшло сваё адлюстраваньне ў рамане *ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ.*

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

# ДАДАТАК да „Паходжаньня Літоўскіх Князёў”

У сувязі з некаторымі запытаньнямі асобаў, што зацікавіліся праблемаю парушанай у артыкуле *Паходжаньне літоўскіх князёў,* зьмешчаным у нумары 21–22 газэты *ЧАС* на гэтым мейсцы падаю дадатковыя высьненьні.

Калі мы займаемся імёнамі літоўскіх князёў, дык добра будзе ў гэтым мейсцы заняцца адной часткаю граматыкі жамойцкай мовы, а іменна заканчэньнямі імёнаў.

Ня так, як у большасьці індаэўрапэйскіх моваў, дзе імя ў назоўным склоне можа канчацца хіба што на кожную літару альфабэту, у жамойцкай мове імя ў назоўным склоне можа канчацца толькі на малую колькасьць гукаў (літараў).

Такімі літарамі, у жамойцкай мове, для мужчынскага роду імёнаў ёсьць наступныя: „as” ці „ias”; „us” ці „ius”; „is” ці „ys”; і „uo”.

У жаночым родзе імёны ў назоўным склоне могуць канчацца на „a” і „e” з некаторымі вынняткамі для чужых словаў. Ніякага роду ў жамойцкай мове няма.

Такім чынам, калі слова ёсьць жамойцкае, дык яно можа мець толькі й выключна адно з вышэй паданых канчаткаў.

Дзеля гэтага, калі жамойцы ужываюць нейкае імя(у значаньні граматычным), што паходзіць з іншай мовы й нямае заканчэньня вымаганага ў жамойцкай мове, дык яны цьвердзяць, што каб зрабіць данае слова скланяльным у жамойцкай мове, дык да гэтага слова павінен быць даданы адзін з жамойцкіх канчаткаў – пераважна „as”, „is”, ці „ys”.

Абапіраючыся на такой падставе ў жамойцкіх кнігах і газэтах яны пішуць: Гэдымінас, Пісімонтас, Скірмунтас ці Гінвілас, хаця ў ніякай з гістарычных крыніцаў такія формы нідзе не спатыкаюцца. Цяпер такія формы пачынаюць спатыкацца і ў іншых мовах, а гэта дзеля дзьвух прычынаў: (1) неарыентаваньне ў крыніцах і праз гэта бязкрытычнае перайманьне жамойцкіх моўных формаў і (2) ахвота некаторых нашых суседзяў, дзеля палітычных прычынаў, надаць гэтым імёнам жамойцкі каларыт.

Калі-б нехта на падставе жамойцкіх газэтаў з часу вайны хацеў даведацца аб выдатных палітычных дзеячох таго часу, дык даведаўбыся аб існаваньні Рузэвэльтаса, Сталінаса, Чэрчыліса й падобных.

Напісаньні імёнаў літоўскіх князёў у усіх хроніках і дакумэнтах, калі справа адносіцца да заканчэньня імёнаў, у аснаўным аднолькавыя й дзеля гэтага досыць будзе заняцца аднэй з хронікаў, хронікай Быхаўца, якая, як напісаная лацінічай, дае лепшую магчымасьць зразуменьня гучаньня некаторых імёнаў.

На пачатку выводу роду літоўскіх князёў у хронікі Быхаўца спатыкаем часамі імёны з канчаткам „us”, які агульна, хаця й уласьцівы жамойцкай мове, але здараецца ня часта. Праўдападобна гэтым хранікар хацеў зрабіць больш верагодным паходжаньне гэтых князёў з Рыму, бо ў лацінскай мове канчатак „us” выступае часьцей як у мове жамойцкай. Маем такім чынам Доспрунгус, Гедрус, Боркус, Трабус, але імя правадыра ўсёй групы Палемона, пакінута бяз дачэпкі „us”.

Найбольш імёнаў літоўскіх князёў канчаецца на „Т”, як Гібмут, Гаштолт, Скірмунт і Любарт. Маем таксама заканчэньні на „Л”, як Монтвіл, Эрдвіл, маем канчатак „Н”, – Гілгін, ёсьць на „К” – Войшэлк, ёсьць і з канчаткам „А”, як Скіргайла ці Корігайла. Канчатак на „А” можна было-б лічыць жамойцкім, каб можна было-б вытлумачыць на падставе жамойцкай мовы цэлае імя.

Маем адно імя Гольша (першая літара лацінскае „H”), якое паводле свайго канчатку можна-б палічыць жамойцкім, але тут на перашкодзе стаіць той факт жамойцкай граматыкі, што лацінскі гук і літара „H”, якой пачынаецца слова ў хроніцы Быхаўца ўжываецца ў жамойцкай мове толькі ў чужаземных словах.

Тое, што нашыя хронікі правільна перадаюць фанэтычнае гучаньне словаў відаць з таго, што яны не адкідалі жамойцкіх канчаткаў, там дзе яны ў запраўдасьці былі. Хроніка Быхаўца расказвае нам, што ў князя Монтвіла (імя скандынаўскае) было трое прыдворных з імёнамі: Грумпя (Grumpia), Эйкшыс і Гровжыс – гэтыя тры імёны бязсумлўна жамойскія. Гэтыя тры Жамойцы былі пасланыя князям Монтвілам, як памоцнікі й дарадчыкі сыну Монтвіла – Эрдвілу. Эрдвіл, за заслугі, надаў ім па кавалку зямлі й такім чынам гэтыя Жамойцы сталіся самастойнымі малымі валадарамі – у тагачаснай сацыяльнай драбіне паступілі ўгару. Хроніка гаворыць далей, што калі ў Грумпі радзіўся сын, дык быў названы Гаштолт, сын Жамойца Эйкшыса атрымаў імя Довойн і сын Гровжыса атрымаў імя Монвід. З гэтага кароткага расказу відаць што пануючым слаём былі Скандынавы (Монтвіл, Эрвіл) і тыя, хто пераходзілі ў вышэйшую клясу, дык сваім сыном давалі ўжо скандынаўскія імёны.

Чужаземнае паходжаньне шляхты Вялікага Княства Літоўскага мы бачым яшчэ з таго, што сягоньня сярод Жамойцаў вельмі мала захавалася прозьвішчаў таго тыпу, якім мы займаліся, але прозьвішчы такога тыпу спатыкаюцца даволі часта сярод шляхты на нашых землях, якая была спачатку беларусізаваная, а тады спалянізаваная. Напрыклад, сярод спалячанай шляхты часта спатыкаюцца прозьвішчы: Довмунт, Ямонт, Монтвіл, Ягелло, Гінтовт, Есьман, Нарбут, сярод-жа маіх знаёмых Жамойцаў у Вільні ніводнага з вышэйпаданымі прозьвішчамі ня ведаў, але ведаў затое людзей з прозьвішчамі: Жіжмарас, Кейрыс, Грібас, Біріміс, Бумбліс, Оданіс і г.д.

* * *

Папярэдне было ўспомнена пра галосьнікі ў Царкве на Каложы ў Горадні, дык будзе на мейсцы дапоўніць раней паданыя весткі. Падобнага тыпу галосьнікі – амфоры, што ўбудаваныя ў сьцены царквы на Каложы ў Горадні знойдзеныя апрача Горадні, Пскова й Ноўгарада таксама ў важным пункце шляху з Варагаў у Грэкі – у Смаленску. Такія галосьнікі знойдзеныя ў Смаленску ў руінах чатырох цэркваў: у царкве што стаяла пры ўпадзе ручая Чурылаўкі ў Дняпро, у царкве на Ўскрасенскай гары, у царкве на Пратоку й у царкве Яна Багаслова.

Трэба думаць, што такія самыя галосьнікі павінны знайсьціся й у цэрквах у гарадох над Дзьвіною й магчыма што яны ўжо знойдзеныя.

* * *

Паводле хронікаў гэрб ВКЛ быў пачаткова гэрбам Нарымонта, яшчэ ў дахрысьціянскія часы й такім чынам двукрыж на гэрбе ня мог быць хрысьціянскім сымбалем, хаця пазьней, пасьля прыняцьця хрысьціянства да яго пачалі прывязываць такое значэньне й да сягоньня двукрыж, як на Пагоні, знаходзіцца на сьцяне царквы Яна Багаслова ў Смаленску.

– *Л. Галяк*

Прафэсара ЎЛАДЗІМЕРА СЯДУРУ

*БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНЬНІКА Й ВЯДОМАГА НАВУКОЎЦА*
*нагароджанага некалькімі ганаровымі дактаратамі за*
*ВЫДАТНЫЯ АСЯГНЕНЬНІ Ў ГАЛІНЕ ЛІТЭРАТУРЫ Й НАВУКІ*
*вітае з 50-м лецьцем Ягонай навуковай працы й*
*шчыра жадае Дастойнаму Юбіляру*
*многа посьпехаў ў Ягонай далейшай працы*

Рэдакцыя газэты „ЧАС"

АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА

*ЗМАГАРА ЗА СВАБОДУ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ СВАЙГО НАРОДУ,*
*БАРАЦЬБІТА ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ СВАЕЙ РОДНАЙ ДЗЯРЖАВЫ – БЕЛАРУСІ*
*вітае*
*з 90 лецьцем Ягонага жыцьця й*
*шчыра жадае*
*ДАСТОЙНАМУ ЮБІЛЯРУ*
*здароўя й многа посьпехаў у будучыні*

Рэдакцыя газэты „Беларускі ЧАС"

# СЬВЯТЫЯ РЭЛІКВЫ ў Парафіі БАПЦ ў Дораты

Гэтым ветліва падаецца да ведама нашым пабожным вернікам, што дзякуючы ініцыятыве Высокадастойнага Мітрафорнага Пратаярэя а. Карпа – настаяцеля парафіі Сьв. Тройцы ў Дораты, даручаная Яму Сьвятыня ўзбагацілася наступнымі каштоўнымі Сьв. Рэліквамі, якія вельмі рэдка ў сучаснасьці можна спаткаць у парафіяльных цэрквах.

Сьвятыя Рэліквіі, якія прывезеныя з Сьвятой зямлі наступныя:

1) Частка Сьв. Мошчаў Сьв. Савы Асьвячанага,
2) Кусочак каменя ад Гробу Госпаднягa ў якім быў паложаны Хрыстос Язэпам Арымафэйскім і Нікадзімам,
3) Ікона Сьв. Спірыдона з мошчамі,
4) Частка зямлі з пад дубу Маўрыйскага, дзе Аўрааму зьявіліся тры падарожнікі (Бог і два Анге лы).
5) Сьв. Алей з мошчаў Сьв. Мікалая й Алей пасьвечаны на Гробе Госпаднім,
6) Сьвятая вада з Ярдана,
7) Два крыжыкі пасьвячаныя на Гробу Госпаднім,
8) Дзьве сьвечкі запаленыя Дабрадатным Агнём,
9) Частка з гары Лівана, якая асьвячана ступнёй Госпада,
10) Кусочак ад каменя з Галгофы, дзе стаяў Крыж з укрыжаваным Госпадам,
11) Чатэры йконкі асьвячаныя на Гробу Госпаднім.

Усе гэтыя Сьв. Рэліквы будуць перахоўвацца ў спэцыяльным Каўчэгу ў царкве Сьв. Тройцы ў Дораты й у кожным часе будуць даступныя для пакланеньня маленьнікам. Будзем верыць, што шматлікія напэўна з вялікаю ахвотаю наведаюць Сьвятыню ў Дораты й шчыра й сардэчна памоляцца прад Сьв. Рэліквамі ды ўзьнясуць падзяку Ўсемагутнаму, Які абдарыў нас і нашую Сьвятыню гэткім вялікім скарбам, які заклікае нас прад ім узносіць шчырыя малітвы Богу.

А Мітрафорнаму Пратаярэю а. Карпу за ўсе ягоныя захады ў справе набыцьця Сьв. Рэліквaў ад імя Кансысторыі выказваецца шчырая падзяка.



*Царква Сьв. Тройцы ў Дораты*

## BYELORUSSIAN ANTIQUITY

*(continued from page 1)*

abundance in Byelorussia as a result of a very significant trade with the East. Eastern coins from the periods of 532-953 and 823-1023 were found in Hniazdo. Ancient Greek and Roman coins have also been found in Byelorussia. West European coins, however, are rare and the rarest are Byzantine and Kievan Rus coins. The latter have been found only in unique instances.

Mr. Scakacichin systematically catalogues the known archeological materials beginning with the end of the neolithic age. He notes that the geometrical pattern on ceramic objects from this era, such as crosses, triangles, rectangles, etc. are found today in Byelorussian folk ornaments and costumes.

### ORNAMENTS FROM THE SIXTH TO THE EIGHTH CENTURIES

The Nioman River region and the upper Aka have revealed a particularly great diversity of many beautiful bronze objects engraved and decorated with colored enamel. Many of these objects were found in the ruins of the Moshchyn castle in the Masalki region of the Kazyl district. According to Mr. Scakacichin, most of these objects were produced in this region in the 6-th–8-th centuries although the forms themselves may have been influenced by Western European art.

The majority of other objects from this period, such as brooches and pendants that have been found in the burial mounds throughout Byelorussia in many respects are similar to those of the Baltic region. In general, both regions form a single archeological group. Byelorussian discoveries can be differentiated from the Baltic only occasionally in minor detail. Mr. Scakacichin accepts the now well-established fact that at one time all Byelorussian territory was populated by the Balts. Nevertheless, he looks only for the Slavic peculiarities in these objects and finds them only in minor details. The discovery of the existence of the Baltic traits existing alongside with the Slavic traits in Byelorussia is an indication that the Byelorussian nation itself is of Balto-Slavic synthesis. Spicin, a 19-th century authority on this subject asserts that up to the 10-th century Byelorussian Slavs used Baltic objects.

Among objects of practical use are bronze and sometimes silver necklaces, headbands and beltbuckles. The older types are similar in style and detail to the enameled objects. Scakacichin assumes that the Byelorussian Nioman district was the origin of very popular jewels made of narrow bronze wires, called reed, and adorned with pendants of thin metal, bronze or silver. Such forms are also found in the Baltic tombs and they both are variants of Scandinavian ornaments. One unusual variant has a little drum as a pendant and had been uncovered in Aukshtotia, Byelorussia bordering this region and in most of central Byelorussia.

A characteristic trait of these variants is their purely geometrical ornamentation. This trait is found today in Byelorussian folk art and testifies, perhaps not accidentally, to a certain perpetuity of the national ornamentation. Among these forms the most popular patterns consisted of simple lines, little hoofs or more complex forms usually arranged in a zig-zag fashion. These patterns today adorn Byelorussian national costumes especially the belts. Possibly they are a result of ancient decorative traditions whose roots are buried in the depths of the mound era.

Smooth brooches, i.e. without pendants, of the 6-th–8-th centuries are common not only throughout Byelorussia, but also in areas to the east. Complex silver articles were found in the tombs at Hniazdo and Nevel with traits prevalent in Arabian and Syrian jewelry. Mr. Scakacichin asserts that the smooth brooches are of Syrian origin. A frequently used ornament on the smooth brooches is a straight line drawing suggesting a snake. Another type has a thin wire encircling the brooch. An original Byelorussian variant is a circular clasp or a fastening device. One end has a wire hook and the other end is flattened and has an opening for the hook. Such devices are found frequently in Byelorussia but have no similar counterparts in other countries. Other smooth brooches of this period have the fine drawings and technically complex filigree found only in the best Eastern jewelry.

The relarively large number of Arabian coins (dyrhen) found in Hniazdo and elsewhere in Byelorussia compared to a very limited number of other coins certainly points to a substantial trade between Byelorussia and the East during the 6-th–8-th centuries.

Mr Scakacichin points out that the brooches of the 10-th century show a rather complex form. They become more diversified and lose their massive and simple character.

### FIBULAS

Fibulas are articles not sewn to clothing but designed to fasten and hold garments together. They were used extensively in Byelorussia as ornaments, although they were not as predominant in Byelorussia as in the Western Europe and Rome where together with the outer garment fibulas indicated military rank and award. However, by comparison with East European countries and central and northern Russia, the fibulas appear in Byelorussia more frequently and in more diversified forms and reveal a rather profound similarity to the western types.

Besides the simple fibulas, enormous quantities of "hooflike fibulas" as they are called by some authors, have been found in almost all parts of Byelorussia. These are rather round buckles used for closing the garment. The buckles have the form of a disconnected ring, made of a thin wire or a piece of thin hardwood to which is usually fastened a massive pin.

### HAND DECORATIONS

Hand decorations found in Byelorussian tombs consist of rings, rings with precious stones, bracelets and armbands. Their forms are very diversified and sometimes several variations may be found in one tomb. According to Mr. Scakacichin: "We find the least diversity in rings and rings with precious stones — the greatest in bracelets... The rings could be reduced to two fundamental types: narrow, made from one or a few pieces of metal and a broad spiral with several windings..."

### BRACELETS

The most original of these are so-called plate bracelets. Sometimes they are found in Western Europe, mostly Germany, but more frequently in the Baltic region and north-western Byelorussia. Another widespread form of hand desorations are the "split-ring" bracelets with hooflike designs, flat on one side and rounded on the other and engraved with geometrical patterns. A similar ornament is found on reed bracelets which occur frequently among Byelorussian antiquities and are definitely associated with eastern types. Eastern bracelets of this type usually have animal heads at their ends, while in Byelorussia the heads are those of snakes. In addition geometric pattern may be superimposed on the basic design.

* * *

All these items and products express an intimate relationship between Byelorussia or Litva and the East and also the West. This is a general characterization of Byelorussian antiquities which is explained by the geographical location of the country as a junction point along the east-west trade routes of that time.

— MARIA STANKIEVIC

*(to be continued)*